# Новыя банкноты




4 кастрычніка у прыватнай Галерэі сучаснага мастацтва «6 лініі», якая належыць ЗАТ «Белтэхналёгія і М», адкрылася выстава Цімоха Ізотава «Новыя грашовыя банкноты, альбо Беларускі рэалізм»

Трынаццаць «купюраў», якія так нагадваюць сучасныя беларускія грошы, выкананыя у тэхніцы алейнага жывапісу на халсьце «сур'ёзнага» фармату

Выставу, якую падтрымаў Беларускі Фонд Сораса, не абышлі ўвагай Найперш, дырэкцыя забараніла выставіць адну з «банкнотаў» на якой фігураваў вусаты пэрсанаж сярод дзяцей Крыху пазьней быў «выкрыты» подпіс на другой «купюры» — «Тимофей Винников» Подпіс загадалі зацерці і ад яго засталося толькі «Т.». Аднак канцэптуальная праграма аўтара праекту засталася усе ж на паверхні — нумарная сэрыя купюраў «L&M» Кожны, хто чытае ня толькі дзяржаўную прэсу і заўважае гандлярак цыгарэтамі ў пераходах, бязь цяжкасьці пазнае ініцыялы літаратурнага пэрсанажа з паэмы «Лука Мудзішчаў», якая ў свой час нарабіла шуму, дзякуючы публікацыі у газэце «Свабода».

Цімох Ізотаў пасьля сканчэньня Менскай мастацкай вучэльні доўга шукаў сябе ў розных жанрах і у розных краінах, аднак менавіта «тутэйшы канцэптуалізм» сёньня прынес яму пэўны посьпех

Але няўжо дзеля таго, каб мы нешта стваралі, ухутвалі думкі ў сувой мэтафараў, вывяралі кожны штрых і кожную літару, нам патрэбны таталітарны плот з забаронаў і забабонаў? Бадай, ня ў тым сутнасьць гэтай акцыі Сутнасьць у тым, што яе стварыў абсалютна свабодны і абсалютна тутэйшы чалавек для свабодных тутэйшых людзей.

Сяргей Харэўскі

